Кошт паштовай перасылкі аплачана агулам.

Цана асобнага нумару 1500 м. п.

# НАШ СЬЦЯГ

Адрэс рэдакцыі і адміністрацыі: **Вільня, Віленская вул. 12, п. 6.** (Wileńska 12 m. 6).
Рэдакцыя адчынена ад **12** да **2** г. штодня апрача сьвяточных дзён. Адміністрацыя ад **9** да **3** г.

**Выходзіць тры разы у тыдзень.**
Падпіска **на адзін месяц** з дастаўкай да хаты **18.000** м. п.
Для заграніцы удвая даражэй.

Няпрынятыя у друк рукапісы назад не вяртаюцца.
Аплата надрукаванага залежыць ад Рэдакцыі.
Цана абвестак: перад тэкстам 3500 мк., сярод тэксту 3000 м. і на 4 стр. 2500 м., за радок пэтыту у 1 шпальт.

№ 23 | Пятніца, 10-га жніўня 1923 г. | Год I.

## У новы сьвет!

За межамі нашае Бацькаўшчыны, па розных эўрапэйскіх гаспадарствах, расьцярушана багата беларускіх эмігрантаў. Гэта пераважна тыя людзі, якія вялі за граніцай незалежніцкую беларускую палітыку, стараючыся зацікавіць увесь палітычны сьвет беларускаю справай і—пры падмозе вялікіх дзяржаў—дабіцца разьвязаньня беларускага пытаньня ў незалежніцкім духу.

Але вялікія дзяржавы „Старога Сьвету"—нашае старое Эўропы,—хоць і заяўлялі вельмі ўрачыста, што ваююць за „вызваленьне малых народаў",—на дзеле стварылі пасьля вайны такія парадкі ў Эўропе, што пры іх палажэньне недзяржаўных „малых народаў" сталася горшым, чым было да вайны... І ўсе стараньні беларускае палітычнае эміграцыі дабіцца нечага для Беларусі скончыліся поўнаю няўдачай: Ліга Нацыяў зацьвярдзіла ўсе акты падзелу нашае Бацькаўшчыны дужэйшымі і шчасьлівейшымі за нас суседзямі...

І палажэньне тых, хто нёс у Заходняй Эўропе штандар незалежнасьці Беларусі, сталася на грунце „Старога Сьвету" вельмі цяжкім... Тыя элемэнты, якія прысябраваліся да беларускага палітычнага руху дзеля выкарыстаньня яго для сваей кар'еры, ўжо пачалі адступленьне. Як мышы, што ўцякаюць з тонучага карабля, такія ігракі „на маза" кінулі працу ў тых беларускіх установах, што прадстаўляюць сабой беларускую дзяржаўнасьць. Адны з іх заняліся асабістымі справамі. Другія „кормяцца" пры чужых урадах, робячы від, быццам на чужыне „творыць беларускую культуру": і гэтым-жа апраўдаваюць сваё бескарыснае мадзеньне і выслугоўваньне „чужым багом"....

А тымчасам перад усімі нашымі палітычнымі эмігрантамі, якія запраўды хочуць служыць беларускай справе, шырока расчыніліся дзьверы іх Бацькаўшчыны — Усходняе Беларусі—пасьля савецкае амністыі (у Заходнюю Беларусь доступ ім усё яшчэ закрыты, ня гледзячы на так-званую „амністыю" ў Польшчы!). Мала таго: для тых, для каго праца ў Савецкай Беларусі дзеля тых ці другіх прычын немагчыма, цяперака адкрываецца новае, нязвычайна ўдзячнае поле дзеля працы сярод многасоттысячнае беларускае эміграцыі ў „Новым Сьвеце"—ў Амэрыцы.

Будаваць Беларусь можна ўсюды, дзе ёсьць жывы беларускі народ. Можна яе будаваць і на амэрыканскім грунце. Болей таго: на вольнай амэрыканскай зямлі, на якой сто гадоў было магутнае гнязьдо ірляндзкіх незалежнікаў, ёсьць поўная магчымасьць перахаваць і тыя беларускія дзяржаўныя установы, якім ужо цесна ў старой Эўропе, што на словах абвяшчае волю „малым нацыям", а на дзеле абярнулася ў катаржны вастрог для іх....

1-га верасьня ў Чыкаго мае адбыцца ўсебеларускі эміграцкі конгрэс. Мы горача вітаем гэты першы крок нашае эміграцыі ў Амэрыцы да аб'яднаньня сваіх распыленых сіл. Мы з нашага „Старога Сьвету" шлем нашым братом на „Новым Сьвеце" шчырае пажаданьне стацца магутнай, добра арганізованай сілай, якая пryме чыннае ўчасьце — хоць і з-за мора — ў запраўдным будаваньні Бацькаўшчыны.

Але было-б нязвычайна важна, калі-б, апрача прывітальных слоў, з старое Эўропы ў „Новы Сьвет" прыехала грамада жывых працаўнікоў, палітычных і культурных дзеячоў, якія-бы працай сваей памаглі нашай эміграцыі ў распачатай ею рабоце. І мы, у поўнай сьвядомасьці важнасьці справы, шлем гэты заклік усей нашай палітычнай эміграцыі — галоўным чынам тым, каму цяжка варочацца ў Усходнюю Беларусь і зусім зачынена дарога ў Беларусь Заходнюю.

У „Новы Сьвет"—да новае працы!...

**Лаўрыновіч.**

## Цынізм дужага.

Трудна назваць іначай выступленьне з Соймавай трыбуны ў адказ на беларуска-украінскія інтэрпэляцыі кіраўніка сучаснае польскае прасьветнае палітыкі самога міністра прасьветы *пана* Гломбінскага, па думцы якога нацыянальным меншасьцям нідзе ў іншай дзяржаве Эўропы няма гэткага райскага жыцьця, як у, вырванай фортунным лёсам яшчэ ўчора з амаль што поўнае няволі, Польскай Рэспубліцы.

Сорак чатыры,—гэта мэсыянская лічба „czterdzieście cztery",—беларускія школы на не адзін мільён беларускага насяленьня гэтак званых „kresów wschodnich" Рэспублікі *пану* міністру прасьветы паказваецца аж занадта вялікаю лічбаю. Пахне нейкаю, навек памёршаю, эпохаю расейскае царыцы Кацярыны II, калі для „серой скотинки" за дарэмную выглядала патрэба прасьветы, патрэба элемэнтарнай навет школы, бо па думцы дужых таго часу выходзіла, што масы народныя і без таго могуць жыць, маючы ў сваім распараджэньні дарэмнае карыстаньне сьвежым паветрам нязьмерных абшараў імпэрыі, патрэбнае кожнай жывёліне й расьліне яснае сьвятло сонца ды саўсім бясплатную ваду.

Сьмешна навет чуць, нятолькі даведацца ў нашыя дні, што адыйшоўшая ў вечнасьць эпоха рабаўладзтва знаходзіць, у душах сучасных нам прадстаўнікоў ураду „дэмакратычнай" (з боку тэорэтычнага) Польскай дзяржавы, жаласьлівыя ноткі па мінулых „старых добрых часах".

Бо чым-жа можна назваць цынічнае ўрадовае разуменьне прасьветных патрэбаў беларускага народу, як ня простым жаданьнем рабаўладзтва, жаданьнем трымаць у цемры вялікую часьць насяленьня дзяржавы, каб яго можна было лягчэй эксплёатаваць, як з матар'яльнага, так і з духоўнага боку.

Вельмі добра разумее польскі ўрад і асабліва міністар прасьветы *пан* Гломбінскі, што асыміляцыя зьяўляецца самаю горшаю формаю рабства.

Гэта ня горай разумелі калісьці й турэцкія султаны, хапаючы хрысьціянскіх дзяцей сваіх падданых, выхоўваючы гэтых дзяцей у мусульманстве ды робячы гэтым самым страшныя зграі жыварэзаў у сваім войску пад імем янычараў. Гэтыя янычары былі найвярнейшымі абаронцаміісьляму і найзьлейшымі ворагамі хрысьціян, дзяцьмі якіх зьяўляліся самі.

Простым мужыцкім інстынктам народ беларускі ў Польшчы, ў сваёй абсалютнай большасьці селянін-земляроб, разумее добра ўвесь жах янычарскага палажэньня, ўсю небясьпеку трапіць у духоўнае рабства і гэты народ наш як мага дабіваецца свае роднае школы, школы на матчынай мове дзяцей-вучняў. Просты сярмяжны народ не здавольваецца тым лікам школ сваіх, якім гэтак ласкавы ўрад польскі абдарыў яго маладое пакаленьне.

— Але-ж ці мужыку разумець, як належыць, свае патрэбы?—думаюць паны-апякуны і панская рабаўладарская іх псыхолёгія ня можа дапусьціць інакшага істнаваньня мужыка, як толькі несамастойнага—пад поўнай апекай панскае касты.

— Інтэлігэнцыя наша паупэрызуецца,—крычыць на ўвець сьвет у сьмяртэльным жаху й нечалавечым зьдзіўленьні беларуска-украінская дэкляярацыя ў Сойме.

А што за інтэрас паном палажэньня да беларускіх, ці украінскіх інтэлігэнтаў-паупэраў?

Яны—мужыцкія дзеці, ім толькі й быць мужыкамі, насіцелямі „ніжэйшай" культуры, як афіцыяльная культура дзяржавы.

Сярэднявечныя мэтоды перарабляньня цэркваў на касьцёлы ідуць да засейваньня паупэрызму і сярод праваслаўнага духавенства, да поўнага абезгалоўленьня працоўнае масы няпольскага насяленьня.

Паліцэйскім духам і паліцэйскімі спосабамі паны думаюць прышчапіць „хамскай", па іх разуменьню, масе украінцаў і беларусаў сваю „вышэйшую" (ізноўжа па іх разуменьню) польскую культуру.

Запамінаюць паны імі самымі пісаныя, для нейкай незразумелай дэмагогіі перад культурнай Эўропай, аснаўныя законы *свaей* дзяржавы, запамінаюць міжнародныя абавязаньні гэтае дзяржавы ды чуюць сябе ў ёй, якая завецца па іх уласнай тэорыі „дэмакратычнаю рэспублікаю" ані ня горш, як у колішнія часы ваякаў-królów ды бязглуздага шляхецкага liberum veto (не пазваляю!).

Засьлепленыя „cudownym zmartwychwstaniem swej ojczyzny"—гэтым пладом шчасьлівага для іх мілітырнага фокусу, запамінаюць нялічаныя ірэдэнты амаль што на кожным пункце дзяржаўных граніц, запамінаюць катастрофічнае палажэньне дзяржаўных фінансаў, якіх ня можа папячыць і выцінаньне ў пень беларускіх лясоў, адным словам махаюць рукою на ўсе ненармальнасьці дзяржаўнага жыцьця.

А што ім да нормаў і прынцыпаў здаровай дзяржавы наагул?

Іх гульня—тэорыя дэмакратызму.

Іх практыка—цынізм дужага.

І выцякае гэта практыка ня з расавага антаганізму, (бо тут можна было-б падумаць аб „старой славянскай калатніне"), а з клясавае процілежнасьні іхніх інтарэсаў інтарэсам тых, каго яны ўсясільна апякаюць, каго век карміць цемраю думаюць.

**К. М.**

## Работніцкі рух.

На нашых вачох адбыліся адна за другой вялікія забастоўкі польскіх працаўнікоў. Саўсім зразумела, што даражыня прадуктаў першае патрэбы даводзіць польскага работніка да роспачы. Вялікія дзяржавы сваей мілітарыстычнай палітыкай, сваей падрыхтоўкай да новых войнаў, да новых забойстваў, прымушаюць напружаць усе грашовыя сілы і тыя малыя дзяржавы, якія яшчэ толькі што паўсталі і не пасьпелі апамятацца ад разрухі, што прайшлася разам з вайной па іх тэрыторыях.

Усе гатуюцца да вайны, а плацяць за гэта галадоўляй сваей рабочы і селянін, у якіх з рота выдзіраюць апошні кавалак хлеба, каб павялічыць збройную сілу....

І вось работнік пакідае хвабрыку і выходзіць на вуліцу. Але ён выходзіць не адзін. Ён ведае вялікую сілу яднаньня. Арганізованае выступленьне, змаганьне з фабрыкантам не паадзіночцы, а цэлай рабочай грамадой, — вось у чым сіла ўсіх рабочых выступленьняў.

Бачыць хвабрыкант, што работа стала, хвабрыка маўчыць. Ня гудуць трубы, ня скрыпяць калёсы. Што рабіць? Пэўна-ж трэба ратавацца, трэба ісьці на згоду з работніцкай грамадой. І работнікі адтрымліваюць патрэбную надбаўку, ня гледзячы на ўсю прагавітасьць капіталістаў, якім хацелась-бы захапіць увесь сьвет у свае хціўныя лапы. Але яны бачаць перад сабой арганізованую сілу, ня могуць яе змагчы і ідуць, змушаны йсьці на прымірэньне.

Мо яшчэ многа разоў прыдзецца работніцкай клясе выходзіць на вуліцу. Мо шмат разоў яшчэ яна будзе ў крывавай бойцы з фабрыкантамі, але нарэшце даб'ецца свае мэты—пераходу ўсіх прадпрыемстваў у рукі працоўных мас. У яднаньні сіла.

**К.**

цяў, пры дапамозе каапэрацыйнага апарату беларускіх падручнікаў.

### Рэарганізацыя Беларускага Рабочага Тэхнікуму.

Наркамасьветы мае рэарганізаваць Бел. Раб. Тэхнікум. Тэхнікум будзе складацца з двох адзяленьняў: электра-мэханічнага і будаўнічага.

### Беларуская арганізацыя эспэрантыстаў.

Народны Камісарыят Унутраных Спраў зарэгістраваў устаў Беларускай фэдэрацыі эспэрантыстаў Савецкіх краін.

Цэнтральным камітэтам саюзу зацьверджаны часовы склад цэнтр. к-ту фэдэрацыі: Д. Сьнежка, Клыс, Г. Райхерт, В. Дабравольскі і І. Бараноўскі. Пачтовы адрас фэдэрацыі: Менск да патрабаваньня Д. Сьнежка.

### Бабруйскі павет.

Па даручэньню Бабруйскай „Хаты Беларускай Культуры і Мастацтва“ 16-га і 17-га чэрвеня г. г. я пабываў у Чырвона-Бярэскім тэхнікуме з мэтай азнаямленьня з працай беларускага гуртка „Рунь“, які быў закладзены там студэнтамі - практыкантамі Пятроўскай Сельска-Гаспадарчай Акадэміі ў 1922 г.

На сабраньні агульным сходзе пасьля кароткага дакладу аб разьвіцьці беларускага руху ў Бабруйску, аб арганізацыі і працы „Хаты“ і аб становішчы ў сучасны момант беларускага культурнага руху была ўнесена прапанова з'арганізаваць гурток, што і было зроблена. Як прыклад працы Бабруйскай „Хаты“ быў зачытан рэфэрат на тэму: „Якуб Колас—беларускі пясьняр“.

Сярод ня вельмі вялікай часткі слухачоў ёсьць шчырае жаданьне працаваць, і цяпер калі новы дырэктар ідзе насустрэчу гэтаму жаданьню, трэба спадзявацца на лепшыя вынікі ў працы. З пачатку новага навуковага году, калі ў тэхнікуме будзе выкладацца беларусазнаўства, як абавязковы прадмет, справа настаўніка-беларусаведа зьнішчыць варожыя адносіны з боку часткі слухачоў. N.

# Допісы.

## З Амэрыкі.

### Нарада беларусаў.

(Ад нашага карэспандэнта).

У Чыкаго 13 ліпня г. г. адбылося паседжаньне сяброў Рады Беларускага Народнага Камітэту і сяброў Цэнтральнага Камітэту Беларускага Народнага Таварыства ў Злучаных Штатах і Канадзе, ў памяшканьні апошняга. На гэтым паседжаньні выясьнілася патрэбнасьць распачаць у большым размеры агітацыйна-арганізацыйную акцыю ў другіх штатах. Грам. А. Змагару даручаны: Нью-Іорк, Нью-Джорзі, Пэнсыльванія і Мічыган. Чыкаго і Ілльнойс—грам. Жукаву і Міхайлоўскаму, Нордвэстэрн грам. Вялічку і Власену. Справы фінансавыя і помач Бацькаўшчыне ўзложана на грам. Лукашэвіча, Рамановіча і Ліхашу. Другой справай разглядалася аб Беларускім Конгрэсе. Выпрацавана дэталічная праграма для Конгрэсу і модус прадстаўніцтва. Затым былі заслуханы даклады аб становішчы Савецкай і Заходняй Беларусі. Пастаноўлена ў першую чаргу аказываць матар'яльную помач толькі Заходняй Беларусі ў ея змаганьні за сваё вызваленьне.

К. П.

## З Літвы.

### Выстаўка Беларускага друку.

У памяшканьні Міністэрства Беларускіх спраў у гадаўшчыну апавешчаньня незалежнасьці Беларусі была ўладжана выстаўка беларускага друку. Выстаўка мела аддзелы: старадрукі, популярна-навуковы і школьны аддзел, аддзел рэлігійных друкаў, поэзія і бэлетрыстыка, пэрыядычныя друкі і часопісі, агітацыйная літэратура, сцэнічныя творы і беларуская песьня, літэратура аб Беларусі. Выстаўка займала 3 сьвятліцы, экспанатаў было звыш 1.000 нумароў. Асаблівую ўвагу зьвярталі старыя, пабеларуску пісаныя, граматы на пэргаманце, тры з якіх мелі подпісы караля Жыгімонта-Аўгуста, адна, пісаная канстантынопальскім патрыярхам Іерэміем у 1582 годзе, мела подпіс патрыярха пагрэцку; факсыміле аўтографу княгіні Ульяны віцебскай Ольгердовай і мн. інш. Выстаўка ўладжана была пераважна кнігазбору В. Ластоўскага па ініцыятыве А. Цьвікевіча, працай В. Ластоўскага і У. Пракулевіча. Выстаўка выклікала зацікаўленьне літоўскага грамадзянства, асабліва культурных працаўнікоў як то: профэсуры Літоўскага Унівэрсытэту, культурных установ і літэратурных асоцыяцый. Часьць экспанатаў далі на выстаўку проф. Вольтэр, грам. М. Біржышка і Ковенскі Меставы Музэй.

# БІБЛІЯГРАФІЯ.

### Казкі Ганс—Хрыстыян Андэрсэн.

Вышлі у сьвет пад Рэдакцыяй Власта. Выданьне Міністэрства Беларускіх Спраў у Літве. Коўна. У акладцы. Зьмест: Салавей. Брыдкае качане. Сон. Маці. Каралеўская вопратка. Якая-ж тут сумлеўка. Гордая іголка. Пяро і каламар. Куфар самалёт. Казкі выданы на добрай паперы фарматам 4° 64 странічкі. Як па мове, так і па зьнешнему выгляду „казкі“ робяць дужа добрае ўражаньне.

С. Кашчана. Адстаяў (апавяданьне). Беласток, Друкарня Сполка. 8° 22 стр. браш. С. К—а. Дагадаўся (апавяданьне). 8° 15 стр. браш.

# Аб усім.

### Ядуць сабачыну.

На лодзінскім рынку зьявілася ўжо ў прадажы сабачына ў такім ліку, што Лодзінскае ваяводзтва прымушана было выдаць спэцыяльныя правілы, рэгулюючыя продаж і ўжываньне **сабачага мяса**.

Вось гэты цікавы дакумант, характарызуючы „буржуазны рай“:

1) Сабакі, прызначаныя па консумпцыю падлягаюць урадоваму абсьледаваньню перад разьнёю і пасьля разьні.

2) Сабачыя вантробы ні ў якім выпадку ня можна лічыць здатнымі да ежы.

3) На мясе, прыгодным для ежы, ставіцца спэцыяльня пячатка „сабака“.

# Гаспадарскія парады.

### Як разводзіць сьвіней.

Нашы сяляне шмат разводзяць сьвіней любяць гэту справу, але ведаюць яе нязусім добра. Вось якія недахваты нашага свінаводзтва: а) благія хлявы, з прычыны чаго свіньні часта прастуджаваюцца, хварэюць і дохнуць, б) благі гатунак сьвіней, якія даюць многа касьцей, мала мяса і сала, марудна растуць, марудна выкармліваюцца, в) нашыя сяляне ня ўмеюць правідлова разьбіраць заколатую сьвіньню, ня ўмеюць зрабіць з сьвіньні ў поўнай меры добры тавар і збываць яго і г) самае большае няшчасьце нашага сьвінаводзтва гэта пошасныя хваробы; ад. іх кожны год шмат сьвіней здыхае.

Хлявы трэба рабіць цёплыя, сухія са свежым паветрам, часта бяліць вапнай, сьвіней абавязкова трэба трымаць у чыстаце, парасят часта мыць.

Дзеля паляпшэньня гатунку добра злучаць нашую простую сьвіньню з ангельскімі кнурамі іоркшырскага і тэмварскага гатункаў. **Іоркшыры**—гатунак буйны; выкармленыя дасягаюць да 20 — 25 пуд. жывой вагі. **Тэмварсы**—крыху меншыя, але лепш вытрымліваюць нашы цяжкія варункі. Добры яшчэ гатунак нямецкі — **майскараўскі**: вельмі пладлівыя і скорасьпелыя; гадовая сьвіньня ўжо паросіцца.

Усе тыя прыбыткі, якія пападаюць у кішані скупшчыкаў і гарадзкіх кілбаснікаў, маглі-б заставацца ў руках сялян і гарадзкіх спажыўцоў, але дзеля гэтага ўся справа забою і разьбіраньня сьвіней павінна быць арганізована і адбывацца па каапэрацыйных заводах. Такі каапэрацыйны сьвінабойны завод быў ужо адчынены перад пачаткам вайны ў Расеі сібірскім саюзам маслабойных супалак. Колатыя сьвіньні на гэтым заводзе разьбіраліся па ангельскаму густу і адразу адпраўляліся ў Англію, галоўным чынам, для ангельскіх спажывецкіх таварыстваў і саюзаў. У нас за гэту справу варта ўзяцца цэнтральным каапэрацыйным установам.

З пошаснымі хваробамі ў сьвіней вэтэрынары цяпер ўжо дашлі як змагацца—яны прышчэпкамі забіваюць хваробу, як, прыкладам, дзецям шчэпяць воспу.



# Наша пошта.

**Грам. М. Т.** Пісьмо Вашае адтрымалі. Шчыра дзякуем за парады, з якіх пастараемся выкарыстаць. Не адмоўце напісаць карэспандэнцыю аб тамашнім жыцьці-быцьці.

# Курс на грошы.

**Варшава 7 жніўня.**

(Афіцыяльна).

| | |
|---|---|
| Даляры . . . . . . . . . | 235.000 |
| Нямецкая марка . . . . . | 0,03 |
| 10 руб. золатам . . . . . | 1.420.000 |

## Сэкрэтарыяты Беларускага Пасольскага Клюбу.

1) **Вільня**, Віленская вул. 12, кв. 6.
2) **Ліда**, 1 1 Слабодка 8.
3) **м. Глыбокае**, Дзісьненскага пав. вул. Сенкевіча 46.
4) **Жодзішкі**, Сьвянцянскага павету кс. Годлеўскі.
5) **Наваградак**, Вялікі Рынак 14.
6) **Нясьвіж**, Альбянская 28.
7) **Столбцы**, Шпітальная 22.
8) **Горадна**, Мастовая 9.
9) **Бельск**, Замкавая вул. 3, кв, 1
10) **м. Саколка**, Горадзенская вул. 34.
11) **м. Кляшчэлі**, Бельскага павету.
12) **м. Крынкі**, Горадзен. павету, Горадзенская вул. 34.
13) **Пружаны**, Вуліца кс. Буткевіча, 16.
14) **Беласток**, Нова-Варшаўская вул. № 83.

**Беларускі Пасольскі Клюб**, Варшава, Вейская вул. Сойм.



Рэдактар-выдавец Я. Лагіновіч.

Друкарня Левін і Сын, Вільня, Нямецкая 22.